*Людзьмі звацца!*
*Янка Купала.*

# СПРАВА

№ 18
Кастрычнік
2012 г.

http://vk.com/id168308417

*Выдаецца з лютага 2012 г.*

ІНФАРМАЦЫЙНА - ГРАМАДСКІ БЮЛЕТЭНЬ МАГІЛЁЎСКАГА РАЁНА

# Ведай нашых!

## У космасе зноў беларус

Доўгачаканая для Беларусі касмічная экспедыцыя на чале з ураджэнцам Беларусі Алегам Навіцкім стартавала 23 кастрычніка ў 13.51 па мінскім часе са стартавага комплексу пляцоўкі 31 касмадрома Байканур.



Палкоўнік ваенна-паветраных сілаў Алег Навіцкі стаў трэцім за гісторыю касманаўтыкі беларусам, які пакінуў межы стратасферы. Праз амаль 40 гадоў пасля палёту першага беларускага касманаўта Пятра Клімука, ураджэнец горада Чэрвень Мінскай вобласці ўзначаліў экспедыцыю на зямную арбіту.

Разам з Алегам Навіцкім да Міжнароднай касмічнай станцыі адправіліся расеец Яўген Тарэлкін і амерыканец Кевін Форд. Арбітальная камандзіроўка экіпажа МКС-33/34 працягнецца больш за чатыры месяцы.

У ліку асабістых рэчаў, з якімі камандзір "Казбека" (пазыўныя карабля) адправіўся на МКС, акрамя фатаграфій і сувеніраў, ёсць і сцяг роднага горада.

*Алег Навіцкі нарадзіўся 12 кастрычніка 1971 года. Скончыў Барысаглебскае вышэйшае ваеннае авіяцыйнае вучылішча імя Чкалава, Качынскае вышэйшае ваеннае авіяцыйнае вучылішча і Ваенна-паветраную акадэмію імя Гагарына. 1 жніўня 2009 г. рашэннем Міжведамаснай кваліфікацыйнай камісіі яму была прысвоена кваліфікацыя "касманаўт - выпрабавальнік".*

За час знаходжання на касмадроме Байканур беларус Алег Навіцкі не толькі прайшоў перадстартавую падрыхтоўку, але і адзначыў свой дзень нараджэння – 12 кастрычніка яму споўніўся 41 год.

Да Алега Навіцкага толькі два беларуса лёталі ў космас у якасці камандзіра касмічнага карабля – Пётр Клімук і Уладзімір Кавалёнак.

## Беларус - ганаровы грамадзянін

Вядомы беларускі праваабаронца, віцэ-прэзідэнт Міжнароднай федэрацыі правоў чалавека Алесь Бяляцкі, які зараз знаходзіцца ў зняволенні, стаў ганаровым грамадзянінам Парыжа.



Рашэнне прынята гарадскім саветам па прапанове мэра французскай сталіцы, які ўхваліў ініцыятыву савета мэрыі 11-й акругі Парыжа.

*"Алесь Бяляцкі, выдатны беларускі абаронца правоў чалавека, у 2011 годзе быў асуджаны судом сваёй краіны да чатырох з паловай гадоў калоніі строгага рэжыму па выніках несправядлівага працэсу",* - гаворыцца ў паведамленні, апублікаваным на сайце парыжскай мэрыі 16 кастрычніка. Бяляцкі *"нястомна змагаўся за правы чалавека нягледзячы на пагрозы і кампанію дэзінфармацыі з боку дзяржавы".*

У прэс-рэлізе нагадваецца, што ў траўні гэтага года на будынку мэрыі 11-й акругі быў вывешаны вялікі партрэт Бяляцкага. Акцыю арганізавалі прадстаўнік мэра Парыжа па міжнародных пытаннях і еўрапейскіх справах П'ер Шапіра, мэр акругі Патрык Блеш і прэзідэнт Міжнароднай федэрацыі правоў чалавека Сухайр Белхасен.

*Падрыхтаваў Антон ДУБАЛОМАЎ.*
Паводле news.open.by, БелаПАН, БелТА.

# Дзве акцыі ў Магілёве

## "НЕ - СМЯРОТНАМУ ПАКАРАННЮ!"

Інфармацыйная акцыя супраць смяротнага пакарання прайшла ў Магілёве. Яе планавалася правесці напярэдадні Міжнароднага дня супраць смяротнага пакарання 10 кастрычніка. Аднак валанцёры, якія распаўсюджвалі налепкі і постэры кампаніі "Праваабаронцы супраць смяротнага пакарання ў Беларусі", былі затрыманыя. У знак салідарнасці з затрыманымі актывістамі іх сябры зладзілі акцыю крыху пазней і расклеілі ў людных месцах горада налепкі супраць смяротнага пакарання, нагадаўшы гараджанам пра гэту праблему, існуючую ў Беларусі.




У Магілёве 8 кастрычніка, прыкладна ў 17-20, пасля званка "пільных" грамадзян, двое актывістаў былі затрыманыя супрацоўнікамі міліцыі і дастаўлены ў Ленінскі РАУС Магілёва. Пасля разгляду, якое доўжылася амаль пяць гадзін, на хлопцаў былі складзеныя пратаколы аб адміністрацыйным парушэнні на падставе ч. 2 артыкула 21.14 КаАП РБ "Парушэнне правілаў добраўпарадкавання і ўтрымання населеных пунктаў", а таксама пратакол аб канфіскацыі інфармацыйных матэрыялаў.

## ДЗЕ МОЖНА АБДЫМАЦЦА?

У Магілёве вырашылі адзначыць Дзень абдымкаў, які ў 1986 годзе прыдумаў студэнт з ЗША, якому патрэбна была падстава абняць каханую дзяўчыну. Не выключана, што ініцыятарам магілёўскай акцыі таксама было патрэбна проста абняць каханага чалавека, да якога ў звычайнай сітуацыі і наблізіцца боязна.

Удзельнікі хацелі сабрацца каля гарадской Ратушы і прайсці да сквера 40-годдзя Перамогі з усмешкамі і абдымкамі, так бы мовіць, калектыўна змагацца з восеньскай дэпрэсіяй. Але згодна з беларускім законам "Аб масавых мерапрыемствах», для правядзення падобнага флэшмоба неабходна было заручыцца дазволам Магілёўскага гарвыканкама. Каб зняць усе падазрэнні у нейкім падвоху, які стаіць за гэтай акцыяй, яе арганізатары распаўсюдзілі ў сацсетках інфармацыю для патэнцыйных удзельнікаў.




► *1. Прыняць удзел могуць толькі тыя, каму споўнілася 18 гадоў (каб у бяскрыўдных абдымках не ўбачылі спакушэнне непаўналетніх).*

► *2. Усе павінны выконваць правілы дарожнага руху і грамадскага парадку;*

► *3. Плакаты могуць быць толькі прыблізнага такога зместу "Не лянуйся - абдыміся", "Давай, абдымацца" і да т.п., пасля акцыі іх трэба альбо пакінуць на памяць, альбо выкінуць у сметніцу.*

► *4. Абдымаць трэба толькі тых людзей, якія гатовыя абняцца.*

► *5. Абдымаць трэба моўчкі, або, па крайняй меры, звярнуцца са словамі "Вы хочаце абняцца?" - Нельга крычаць "Давайце я вас абдыму!";*

► *6. Нельга абдымаць людзей, якія ў дадзены момант працуюць альбо ў каго занятыя рукі.*

► *7. Мы лічым, што моцныя сяброўскія абдымкі павінна доўжыцца прыкладна 5 секунд …* Ну і гэтак далей.

Заяўка на правядзенне акцыі была пададзеная ў гарвыканкам 16 кастрычніка, а 24 кастрычніка была атрымааная адмова: гарвыканкам забараніў праводзіць флэшмоб у цэнтры горада, прапанаваўшы альтэрнатыўнае месца правядзеньня акцыі – ВНУ або стадыён на вуліцы Чалюскінцаў. Аднак арганізатары палічылі, што гэта будзе супярэчыць самой сутнасці мерапрыемствы і адмовіліся ад ідэі правядзення абдымашак ў Магілёве.

Згодна з інфармацыяй на старонцы мерапрыемства Вконтакте, прыняць удзел у акцыі планавала больш за 500 чалавек.

*Падрыхтаваў Сяргей ПІСЬМЕННЫ.*
Паводле ПЦ "Вясна" і "Навіны Магілёва".

## Прадаецца...

Маёмасць ТАА "Вяйнянская крыніца" па вытворчасці безалкагольных напояў, размешчанае ў аграгарадку Вейна Магілёўскага раёна, выстаўлена на продаж па цане BYR 28, 493 млрд. Аўкцыён прызначаны на 23 лістапада. На таргі выстаўляецца ўвесь комплекс маёмасці завода: будынкі і абсталяванне.



*( Заканчэнне на с.2 )*

# Прадаецца...

( Заканчэнне. Пачатак на с.1 )




Завод "Вяйнянская крыніца" быў уведзены ў эксплуатацыю ў 1994 годзе. Заснавальнікамі выступілі фірма "Вейна" і "Магілёўхімвалакно". Прадпрыемства выраблялa безалкагольныя і слабаалкагольныя напоі.

У апошнія гады, завод адчуваў фінансавыя цяжкасці ў сувязі з падзеннем попыту на выпускаемую прадукцыю. Прадстаўнікі Магілёўскага аблвыканкама адзначалі неэфектыўнае кіраванне прадпрыемствам. Але тут трэба сказаць, што заснавальнікі шукалі інвестараў, аднак ні адзін кантракт так заключаны і не быў. Віной усяму, як лічаць на прадпрыемстве, было нежаданне ўладальнікаў прадаваць інвестару маёмасць.

У I квартале 2012 г. ў дачыненні да ТАА «Завод «Вяйнянская крыніца» распачата вытворчасць па справе аб банкруцтве. У ліпені 2012 г. было абвешчана пра закрыццё завода і пачатку ліквідацыйнага працэса. Практычна ўсе яго работнікі былі працаўладкаваны на іншых прадпрыемствах.

Як паведаміла крыніца на прадпрыемстве, цана, запатрабаваная уладальнікамі, "вельмі добрая" пры ўліку зношанасці абсталявання і не вельмі вялікіх вытворчых плошчаў. На заводзе чакаюць пакупнікоў, якія маюць досвед працы ў сферы вытворчасці напояў, пітных або мінеральных вод і якія ўкладуць грошы ў мадэрнізацыю завода. Пры гэтым наўрад ці пасля змены ўласніка прадпрыемства зноў будзе выпускаць фарбаваныя напоі, якія, па словах прадстаўніка завода, сталі "учарашнім днём". Вельмі верагодна, што новы ўладальнік зменіць назву прадпрыемства, яго брэнд і гандлёвую марку.

*Міхась БАРАЗНА.*

***Хто апошні будзе з'язджаць з гэтай краіны, выключыце святло ў аэрапорце.***

# МЭР НАЗВАЎ ПРАБЛЕМЫ



***«Сёння мы бачым, што на будоўлі працаваць няма каму, у аўтобусах пасажыраў вазіць няма каму, у камунальнай гаспадарцы, у дарожна-маставых прадпрыемствах, у цеплаэнергетыцы няма каму працаваць. Горад брудны, таму што дворнікаў няма».***

**Гэта не цытата з апазіцыйнай газеты або выступу актывіста апазіцыі. Гэта цытата з прамовы мэра Магілёва Станіслава Барадаўкі.**

На пашыраным пасяджэнні гарвыканкама ў прысутнасці кіраўнікоў прадпрыемстваў горада і прадстаўнікоў выканаўчай улады, мэр горада Станіслаў Барадаўка распавёў пра тое, наколькі паспяхова горад справіўся з пастаўленымі задачамі сацыяльна-эканамічнага развіцця.

*– Мы асноўныя свае паказчыкі па горадзе Магілёву выканалі: гэта бачна як па лічбах, якія характарызуюць эканоміку, так і па лічбах, якія характарызуюць даходную частку бюджэту,* – адзначыў старшыня гарвыканкама. У той жа час Станіслаў Пятровіч назваў праблемы, на рашэнне якіх гарадскім уладам трэба звярнуць асаблівую ўвагу. Адной з такіх праблем сталі запасы гатовай прадукцыі на складах: прадпрыемствы выпрабляюць больш, чым могуць прадаць, альбо ж не умеюць (або не могуць) прадаць тое, што зрабілі. Некалькі месяцаў таму мэр паказаў кіраўнікам прадпрыемстваў на гэтую праблему і запатрабаваў скараціць запасы гатовай прадукцыі, зразумела, не за кошт скарачэння вытворчасці. Да верасня, калі верыць паперах, прадпрыемствам ўдавалася прытрымлівацца распараджэння мэра – прадаваць і запасы са складоў, і новую прадукцыю. Аднак апошні месяц паказаў, што вырашыць праблему не так проста: склады зноў запоўненыя, і пакупнікі не спяшаюцца станавіцца ў чаргу за тым, што *«Зроблена на Магілеўшчыне»*. З-за таго, што прадукцыя не прадаецца, прадпрыемствы не атрымліваюць грошай на мадэрнізацыю вытворчасці (па сутнасці, на ўласнае развіццё), такім чынам, іх прадукцыя становіцца неканкурэнтаздольнай, то ёсць нікому не патрэбнай. Атрымліваецца, замкнёнае кола. Як з яго вырвацца, мэр не сказаў, але адзначыў, што пакуль незадаволены працай прадпрыемстваў усіх формаў уласнасці.

Яшчэ адна сфера развіцця горада, якой незадаволены мэр, гэта будаўніцтва жылля. У 2012 г. ў строй было ўведзена менш жылых метраў, чым за аналагічны перыяд мінулага года. Ад пытання будаўніцтва мэр плаўна перайшоў да праблем недахопу рабочых кадраў і нізкім заробках:

*– Сёння мы бачым, што на будоўлі працаваць няма каму, у аўтобусах пасажыраў вазіць няма каму, у камунальнай гаспадарцы, у дарожна-маставых прадпрыемстах, у цеплаэнергетыцы няма каму працаваць. Горад брудны, таму што дворнікаў няма. Гэта з-за таго, што мы мала плацім,* – панаракаў мэр. Сапраўды, зарплата, якую прапаноўваюць рабочым дадзеных сфер на рынку, значна ніжэй запаветных 500 даляраў - адсюль адток кадраў і недахоп спецыялістаў. У той жа час, як адзначаюць у гарвыканкаме, па агульных эканамічных паказчыках Магілёў ужо не на апошнім месцы ў рэспубліцы – гэта вядома цешыць, але чамусьці не ўсяляе надзею на бліжэйшы светлую будучыню горада.

*Антон ДУБАЛОМАЎ.*

# Свастыка на продаж



Брэсцкія памежнікі 16 кастрычніка канфіскавалі нямецкія ваенныя нагрудныя знакі і нажы часоў Другой сусветнай вайны. Гэтыя прадметы спрабаваў незаконна ўвезці ў Беларусь 42-гадовы жыхар Магілёва праз аўтадарожны пункт пропуску "Варшаўскі мост", выбраўшы зялёны калідор, прызначаны для перамяшчэння тавараў, якія не падлягаюць абавязковаму пісьмоваму дэклараванню. Пасля выезду з калідора аўтамабіль "Сітраен", на якім ехаў з Польшчы дадзены грамадзянін, быў спынены спецыяльнай наглядальнай групай памежнікаў. У транспартным сродку ў багажніку былі знойдзены 99 нямецкіх ваенных нагрудных знакаў са свастыкай і шэсць нажоў з похвамі часоў Другой сусветнай вайны. Прадметы канфіскаваныя для далейшага разгляду. Іх кошт вызначаецца.

Па словах магілёўца, ён вёз знакі і нажы пад заказ для далейшай рэалізацыі ў Расіі.

*Алесь СУВОРАЎ.*




Прыйшлі авечкі да старшыні калгаса:

– Іван Пятровіч, давай даведку, што мы – буйная рагатая жывёла!

– Ды вы шо, авечкі, зусім з розуму ляснуліся? З якіх гэта часоў?

– Не дасі?! Мы тады галадоўку аб'явім! Апаршывеем, не будзе табе ні воўны, ні сыру, ні мяса ...

– Так нате, нате, вар'яты ...

Праз тыдзень прыходзіць калгасны бык-вытворца. Размахваючы ля носа старшыні паперкай:

– Ты гэтую паперку падпісваў?!

– Так вымусілі ж ...

– Тады займіся імі сам – у мяне каленкі баляць!

# Палыкавіцкая крыніца

( Працяг. Пачатак у № 16 - 17 )

Згахаваліся і ўспаміны гісторыка В. Семяверына напісаныя ім у 1802 годзе. Ён паказвае, што ў крыніцы шмат вуглекіслаты, мінералаў. А ў 1986 годзе Інстытут геахіміі і геафізікі НАН Беларусі правёў аналіз крынічнай вады. Навукоўцы пацвердзілі яе гаючыя ўласцівасці. У ёй змешчаны шраг каштоўных элементаў для бальнеялагічнага лячэння. Ступень мінералізацыі складае каля 25%. Навукоўцы таксама выявілі, што ваду карысна піць хворым язвай, якія пакутуюць падвышанай кіслотнасцю страўнікавага соку, анеміяй .

У пачатку мінулага стагоддзя тут размяшчаліся тры царкоўных будынка. Галоўны храм, званіца і капліца былі пабудаваныя адпаведна ў 1770-м, 1830-м і 1891 гадах. Фактычна гэта быў скончаны храмавы ансамбль.

У Палыкавічы прыязджалі многія вядомыя людзі. Тут праводзіліся і Архірэйскі службы, што кажа аб вялікім значэнні мясцовага храма ў рэлігійным жыцці Магілёўшчыны.

Непадалёк ад царквы, раней быў пляж, абсыпаны белым пяском, які з'яўляўся любімым месцам адпачынку шматлікіх магілёўцаў. З горада сюды прыплываў параход, які дастаўляў у вёску сям'ю апошняга расійскага імператара Мікалая II.

Царскія асобы ахвотна тут адпачывалі, акуналіся ў воды святой крыніцы каля храма. Па ўспамінах сучаснікаў, цар надаваў водным працэдурам асаблівае значэнне. Нярэдка акунаўся ў крыніцу і цэсарэвіч Аляксей, бо вада тут лічылася гаючай.

*Юлія БРУК.*

( Працяг будзе )

“СПРАВА”
Инфармацыйна-грамадскі бюлетэнь Магілёўскага раёна Магілёўскай вобласці, Рэспубліка Беларусь.
Выданне здзяйсняецца ў адпаведнасці з Законам Рэспублікі Беларусь “Аб сродках масавай інфармацыі”.

Заснавальнік і адказны за выпуск - Мікалай Адамавіч ЯЦКОЎ
Адрас: 213107 Магілёўскі раён, в.Брылі, вул. Юбілейная 6 - 7
тэл. маб. +375293732886
e-mail: bryli@mail.ru

Матэрыялы друкуюцца на мове аўтараў.
Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў.
Звярстана і надрукавана на ўласным абсталяванні.
Падрыхтавана да друку 31.10.2012. 21.00.
Наклад 299 асобнікаў. Распаўсюджваецца бясплатна.

«СПРАВА» заўсёды на www.kamunikat.org/